# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 27 (645) Год XIII — 7 ЛІПЕНЯ 1968 г. — ЦАНА 60 гр.


## БГКТ

### ФЕСТЫНЫ БГКТ

Беларускае таварыства набліжаючуюся 50-ую гадавіну Камуністычнай партыі Польшчы і Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі адзначае народнымі фестынамі. 23-га чэрвеня фестыны арганізавалі Міхалоўскі і Гайнаўскі аддзелы БГКТ.

### У РЫБАКАХ

У Рыбаках над рэчкай Нарвай, упрыгожанай высокімі лісцястымі дрэвамі непадалёк ад школы сабралася каля тысячы чалавек. Хто пешшу, хто веласіпедам, хто матацыклам, хто ПКС-ам даязджалі ў тое месца, дзе быў арганізаваны першы фестын БГКТ у 1961 годзе і дзе ўжо адбываліся і наступныя падобныя ўрачыстасці БГКТ. Музыка і песні з грампласцінак, якія ўключаліся ў радыёсамаходзе, вабілі да сябе людзей. Над трыбунай, зробленай з трактарных прычэп, на чырвоным палотнішчы віднеў надпіс: «Польская аб'яднаная рабочая партыя — прадаўжальніца ідэй КПП і КПЗБ».

Два выбухі «пэтард» былі сігналам, што праз некалькі хвілін пачнецца афіцыяльная частка. У прэзідыум фестына былі запрошаны старшыня і сакратар ГП БГКТ — Вінцук Склубоўскі і Уладзімір Юзвюк, сакратар КП ПАРП у Беластоку Аляксандр Давідзюк і прадстаўнік аддзела ўнутраных спраў Прэзідыума ВРН — Аляксей Казёл, паэт Алесь Барскі, солтыс вёскі Рыбакі Мікалай Хлябіч і старшыня мясцовага сельгасгуртка Сцяпан Багнюк.

Урачыстасць адкрыў старшыня ГРН у Юшкавым Грудзе Мікалай Міруць, а старшыня Міхалоўскага аддзела БГКТ Янка Палоцкі, прывітаўшы ўсіх удзельнікаў фестыну, даў слова для даклада інструктару ГП БГКТ на Міхалоўскі аддзел Аляксандру Баршчэўскаму. Дакладчык гаворыць аб значэнні рэвалюцыйнай дзейнасці КПП і КПЗБ, аб падзеях мінулых дзён, аб слаўных традыцыях абедзвюх партый.

Пасля даклада пачалася багатая мастацкая частка, у якой выступілі эстрада ГП БГКТ «Лявоніха», новы мастацкі калектыў гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку, вакальна-музычны калектыў міхалоўскага Дома культуры і мастацкі калектыў школьнікаў грамадскага музычнага асродка ў Міхалове. Адбыліся таксама паказы спраўнасці стражы пажарнай і лігі абароны краіны. А пасля да позняй ночы працягвалася забава.

### У ДУБІЧАХ ЦАРКОЎНЫХ

У Дубічах Царкоўных фестын адбываўся на пляцу святліцы. Урачыстасць адкрыў старшыня мясцовага прэзідыума ГРН Мікалай Чыквін, а даклад чытаў намеснік старшыні Гайнаўскага аддзела БГКТ Васіль Сакоўскі. На трыбуне ў прэзідыуме былі сакратар прапаганды КП ПАРП у Гайнаўцы Людвік Бартосяк, намеснік школьнага інспектара Сяргей Бароўскі, прэзэс ГС-у ў Кляшчэлях Мікалай Младзяноўскі, старшыня спулдзельні інвалідаў у Гайнаўцы Ян Шчука і кіраўнік эстрады аддзела Віталіс Макац. На мастацкую частку скаліся выступленні «Лявоніхі», эстрады Гайнаўскага аддзела БГКТ і «Згадуй-згадуля». Кляшчэлеўскі ГС арганізаваў паказ моды, а таксама добра забяспечыў фестын рознымі напіткамі і «лёдамі».

Фестын закончыўся забавай у святліцы. Фотарэпартажы з абодвых фестынаў замесцім у наступным нумары «Нівы». (мх)



Пагрузка будаўнічых пліт на Гродзенскім домабудаўнічым камбінаце.

Гродзенскія нататкі

# ГРОДЗЕНСКАЯ ГОРДАСЦЬ

Апошні раз быў я ў Гродне роўна 6 год таму назад. Уязджаў у горад па той жа самай дарозе, што і цяпер, ад пагранічнай Кузніцы. Наўрад, ці запамятаў я тадышняе прадмесце гэтага старажытнага горада: вокны самахода маюць вельмі абмежаванае поле зроку. Аднак мне адразу кінулася ў вочы нешта добра знаёмае. Гэта быў напружаны дарожны рух. Здавалася, вуліцы апанавалі грузавікі. Мітусіліся яны, даслоўна, на кожным метры дарогі. А што дарога тут яшчэ не асфальтовая, ехалі мы ў хмарах пылу. Можна было толькі здагадвацца, што ідуць тут вялікія будаўнічыя работы. І сапраўды, калі машына, у якой мы ехалі, выскачыла з пылавой заслоны, мы ўбачылі дзесяткі шматпавярховых дамоў, яшчэ свежых, неабжытых, пабудаваных з вялікіх бетонных пліт. Непадалёк і завод, які выпускае гэтыя пліты. Яны — характэрная рыса тутэйшага будаўніцтва.

Горад спяшаецца ў росце. Раскінуўся на плошчы 40 квадратных кіламетраў. І гэта плошча трашчыць у швах. Горад — цяпер звыш стотысячны, у недалёкай будучыні — звыш двухсоттысячны.

Тэмп, тэмп! 800-гадовае Гродна фактычна да вайны не мела прамысловасці. Павятовы горад, якім яно тады было, славіўся, бадай, толькі махоркай. Тут менавіта была прыватная фабрыка гэтага самага нізкага гатунку курыва.

Скок, які Гродна зрабіла за часы савецкай улады, асабліва вымоўны, калі глядзіш на магутныя калоны азотнатукавага завода. Сюды, на ўсходнюю частку горада, трапілі мы не па-плану. Спазніўся цягнік (нават на міжнародных трасах такое здараецца), мы дабіраліся ў Гродна іншым шляхам і моцна нарушылі трафік. Ну і сябры з «Гродзенскай праўды» вырашылі нас проста пакатаць па горадзе.

Дык стаім цяпер амаль у полі і ўзіраемся на мудрагелістае для нас, прафанаў, сплячэнне сталі і бетону. А там, у гэтых гіганцкіх трубах, бушуюць чараўніцкія сілы. Дзякуючы ім бедныя беларускія глебы набываюць новых якасцей. Прадукцыя завода абяспечвае не толькі палі Беларусі, але ідзе і ў іншыя рэспублікі. Завод — адзін з найбуйнейшых у краіне.

(Працяг на стар. 4)

Напружаныя заданні ў сельскай гаспадарцы выплываюць не з дадатковых павышаных планаў, але з планаў гэтай пяцігодкі. План пяцігодкі закладаў зусім рэальныя паказчыкі, але пасля двух год рэалізацыі аказалася, што часта план аставаўся толькі на паперы. У сувязі з гэтым IX Пленум ЦК ПАРП звярнуў на гэта вялікую ўвагу і забавязаў сельскагаспадарчыя і адміністрацыйныя службы, а таксама партарганізацыі да канкрэтнага дзеяння ў галіне выкарыстання прадукцыйных рэзерваў у сельскай гаспадарцы. Трэба адкрыта сказаць, што нашыя сельскагаспадарчыя службы і адміністрацыя занадта не перайма ліся тым, як у практыцы рэалізуецца так важная дзялянка пяцігодкі. Калі рэалізацыя заданняў была пад пагрозай, адбыліся многія нарады, прыняты пастановы. Адной з найважнейшых адзінак, ад якой у многім залежыць кіраванне гаспадаркай, з'яўляецца ГРН. Разгледзім сельскагаспадарчыя заданні на прыкладзе ГРН у **Семяноўцы.**

Найбольш занядбанымі галінамі сельскай гаспадаркі тут з'яўляюцца наступныя:

— вельмі нізкі ўзровень выкарыстання ўгнаенняў. Усяго 23 кг чыстага NPK;

— амаль адсутнічае хімічная барацьба з пустазеллем;

— замала прымяняецца падсеў сэрадэлі;

— амаль не прымяняюцца азімыя паплёны;

— каля 60 прац. гаспадароў з Лукі, Слабодкі і Бабяй Гары не карыстаюцца сеўнікамі;

— канчаткова не вырашана праблема занядбаных гаспадарак і інш.

Хочацца сказаць, што гэта толькі некаторыя справы, якія перашкаджаюць у развіцці сельскай гаспадаркі семяноўскай ГРН. А з другога боку варта адзначыць, што тэрыторыя ГРН Семяноўка сапраўды адна з найбольш адсталых у развіцці сельскай гаспадаркі на Гайнаўшчыне. Ляжыць перада мною Пастанова № XVIII/51/68 Грамадскай рады нарадовай ад 23 сакавіка 1968 г. у справе ўстанаўлення асноўных кірункаў дзейнасці ў галіне павышэння сельскагаспадарчай прадукцыі. Чытаю пункт па пункце і амаль пры кожным з іх задумваюся.

# З РАЗВАГАЙ І РАЗУМНА

Першы пункт пастановы гаворыць аб заданнях у галіне мінеральных угнаенняў і прадказвае, што выкарыстоўванне іх павінна павялічыцца з 23 кг чыстага NPK на 1 гектар у 1966/67 г. да 126 кг у 1970 г. Для гэтага апрацаваны асобны план. Паказчык выкарыстання вапны за II паўгоддзе 1967 на 1 гектар склаў тут 21 кг, а на 1968/69 гаспадарчы год плануецца павялічыць да 141 кг і 195 кг — у 1969/70 г.

Крыху задумаўшыся над вышэй прыведзенымі лікамі, нават не спецыялісту здаецца, што тут нешта перасолена. Асабіста не веру, што за два гады так узрасце свядомасць семяноўскіх гаспадароў, што стануць яны прымяняць аж на 103 кг больш мінеральных угнаенняў ці на 174 кг вапны на кожны гектар. Гэта не азначае, што тамтэйшая зямля не патрабуе. Магчыма, што план быў бы рэальны, але на ўсю пяцігодку.

Гаварыў я з некаторымі дзеячамі ў Семяноўцы аб рэальнасці такіх планаў. Пачаткова гаварылі, што сапраўды ён рэальны, але, калі я пытаўся якім спосабам гэта думаюць рэалізаваць, раскладвалі рукі. Мала таго, пачалі прызнавацца, што гэткія паказчыкі вельмі высокія і абсалютна не бачаць магчымасці, каб іх у такіх размерах зрэалізаваць. «Дык адкуль ім такое прышло ў галаву?» — задумоўваўся я. І больш адважныя мне падказалі, што такія паказчыкі хтосьці «з павета» прывёз. Можна гэтаму верыць, верыць і здзіўляцца, як можна дапускаць да такіх хібаў. Трэба ж ведаць, што кожны не выкананы план уплывае дэмабілізуюча не толькі на гаспадарку, але і на людзей. Людзі перастаюць верыць у планы, а ў сувязі з тым і ў нашыя прадказанні.

Ды і наогул, гаварачы аб пастанове, трэба сказаць, што замнога ў ёй агульных слоў, а замала канкрэтных указанняў, як гэта рабіць. Не здзіўляюся працаўнікам ГРН, у іх не так яшчэ многа вопыту, але дзіўна, што павятовыя дзеячы — спецыялісты допускаюць да таго. Па-мойму, пастанова павінна адлюстроўваць хаця і горкую,

(Працяг на стар. 5)

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментары • Весткі

## СВЕТ

### ПРАГРАМА СУІСНАВАННЯ І БЯСПЕКІ

Ніводнае з выступленняў дыпламатаў, у апошні час, не выклікала такога вялікага зацікаўлення і не было такім цікавым, як прамова міністра замежных спраў. **А. Грамыкі** на Сесіі Вярхоўнага Савета СССР.

**А. Грамыка** абмеркаваў усе асноўныя праблемы сусветнай палітыкі і заняў канкрэтнае становішча ва ўсіх запаленчых або спрэчных справах.

■ Гаворачы аб блізкаўсходнім крызісе, Грамыка сцвердзіў, што місія Ярынга і акцэптацыя рэзалюцыі Рады Бяспекі з'яўляюцца платформай для яго развязкі. Пацвердзіў таксама, зрэшты не першы раз, **«неабходнасць пашаны суверэнітэта, тэрытарыяльнай інтэгральнасці і палітычнай незалежнасці кожнай з дзяржаў у гэтым раёне — аднолькава як для арабскіх дзяржаваў, так і Ізраіля».**

■ У справах Еўропы: халодны і бязлітасны аналіз з выгляду нібы «новай усходняй палітыкі», асуджэнне законаў аб надзвычайным становішчы, словы салідарнасці з ГДР і прадвесце, што ў справе Заходняга Берліна **«любыя правакацыі будуць адперты Савецкім Саюзам, ГДР і таксама арганізацыяй Варшаўскага Дагавору».** Але адначасова заахвочванне і адкрыццё дзвярэй для ўсялякіх прапаноў, **«напраўленых на памякчэнне напружання ў Еўропе, на запэўненне ёй бяспекі ў паляпшэння суадносін між СССР і ФРГ».**

■ Вялікае зацікаўленне выклікалі фрагменты прамовы адносна раззбраення. Знаходзім тут вельмі істотныя і канкрэтныя прапановы. Савецкі Саюз лічыць, што за дагаворам аб нераспаўсюджванні тэрмаядзернай зброі трэба хутка зрабіць наступны крок наперад. **Атамная зброя павінна быць пастаўлена па-за правам.** Савецкі Саюз прапануе склікаць **«у вузкім або шырокім кругу»** міжнароднай канферэнцыі на гэтую тэму і **«гатовы скласці свой подпіс пад такім міжнародным дакументам».** Калі б заходнія краіны, а галоўным чынам ЗША, не былі гатовы да так радыкальнай развязкі, СССР адкрывае магчымасці перагавораў на тэму ўсялякага тыпу частковых пытанняў аб раззбраенні. Грамыка ўлічвае тут **магчымасць скарачэння ракетнай зброі і дагавору на тэму сістэмаў супрацьракетнай абароны.**

■ Шэф савецкай дыпламатыі многа месца прысвяціў адзінству і салідарнасці сацыялістычных краін. Аўтарытэтна сцвердзіў ён, (і гэта не без значэння) што **«блізарукімі і дарэмнымі з'яўляюцца разлікі тых, хто хацеў бы вырваць хоць адно са звенняў сацыялістычнай абшчыны».** Дадаў, што выпрацаваная ў апошнім часе сістэма дагавораў аб дружбе, саюзе і ўзаемнай дапамозе **«вядзе да калектыўных акцый вялікага значэння».**

Выступленне Грамыкі прынялося называць праграмай суіснавання і бяспекі.

А. К.

## БССР

### СЁМАГА

Адбылася чацвёртая сесія Вярхоўнага Савета Беларускай ССР сёмага склікання.

Сесія ўхваліла Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб сельскім, пасялковым Савеце дэпутатаў працоўных Беларускай ССР. У артыкуле 1 раздзела I гаворыцца:

«На падставе артыкула 52 Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Беларускай ССР сельскі, пасялковы Савет дэпутатаў працоўных з'яўляецца органам дзяржаўнай улады на аб'ядноўваемай ім тэрыторыі і вырашае ў межах праваў, дадзеных законам, усе пытанні мясцовага значэння, зыходзячы з агульнадзяржаўных інтарэсаў і інтарэсаў працоўных вёскі, пасёлка.

Сельскі, пасялковы Савет дэпутатаў працоўных удзельнічае ў абмеркаванні пытанняў раённага, гарадскога, абласнога, рэспубліканскага і агульнасаюзнага значэння».

На будынку Савета пастаянна падымаецца Дзяржаўны флаг Беларускай ССР.

19 чэрвеня Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларускай ССР прыняў пастанову аб увядзенні ў дзеянне Закона.

На гэтай сесіі разгледжана таксама пытанне: «Аб стане і мерах паляпшэння капітальнага будаўніцтва, планавання, забудовы і добраўпарадкавання гарадоў, пасёлкаў і вёсак рэспублікі», дакладваў намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР **У. Каменскі.**

Сесію вёў Старшыня Вярхоўнага Савета БССР паэт **Максім Танк.** Ва ўрадавых ложах прысутнічалі палітычныя і дзяржаўныя кіраўнікі Беларусі — **П. Машэраў, У. Міцкевіч, С. Прытыцкі, Ц. Кісялёў, Г. Жабіцкі** і інш.

### КАНФЕРЭНЦЫЯ

У Мінску адбылася рэспубліканская навуковая гісторыка-медыцынская канферэнцыя, прысвечаная 50-годдзю БССР і Кампартыі Беларусі. З дакладамі выступілі, м. ін., прафесары: **Г. Кручок, Д. Бяляцкі, А. Пракапчук.**

### ПЕРШАЯ

У Інстытуце фізіка-арганічнай хіміі Акадэміі навук Беларускай ССР адбылася першая рэспубліканская нарада па арганічнай хіміі і тэхналогіі арганічнага сінтэзу. У ёй удзельнічалі навуковыя супрацоўнікі вышэйшых навучальных і даследчых устаноў і прадстаўнікі прамысловых прадпрыемстваў Мінска, Віцебска, Магілёва, Брэста.

### МІНСКА

Цэнтральны Камітэт КП Беларусі і Савет Міністраў БССР разгледзелі прапановы Мінскага гарвыканкома і Дзяржбуда БССР па далейшай забудове горада Мінска і прынялі адпаведную пастанову. Адобрана асноўныя напрамкі па першачарговай і перспектыўнай забудове і добраўпарадкаванню горада.

### СМАРГОНІ

У Смаргоні закончыўся першы тур раённага агляду мастацкай самадзейнасці, прысвечаны 50-годдзю БССР і Кампартыі Беларусі.

## ПОЛЬШЧА

### НАРАДА Ў ЦК ПАРП

28 чэрвеня ў Цэнтральным Камітэце Польскай аб'яднанай рабочай партыі адбылася пад кіраўніцтвам загадчыка Бюро друку ЦК Стэфана Альшэўскага нарада сакратароў прапаганды ваяводскіх камітэтаў партыі і галоўных рэдактараў партыйных газет, радыё, тэлевізіі, а таксама некаторых часопісаў і агенстваў, прысвечаная падрыхтоўцы да набліжаючайся прад'зяздаўскай кампаніі. У нарадзе прынялі ўдзел сакратар ЦК партыі Зэнан Клішка і сакратар ЦК партыі Артур Старэвіч, якія ў час нарады выступілі з прамовамі.

### ПЕРАДАВІКІ

29 чэрвеня ў Радомску адбыўся вялікі злёт перадавікоў працы і навукі Лодзінскага ваяводства. У злёце прыняў удзел Член палітбюро ЦК партыі Ігнацы Лёга-Савінскі і намеснік прэм'ера Зэнан Новак. З прамоваю да моладзі выступіў на злёце Ігнацы Лёга-Савінскі. Ахарактарызаваў ён імпануючыя дасягненні сацыялістычнага спаборніцтва моладзі і яе прадукцыйных абавязацельстваў, а наступна ўказаў на вялікія традыцыі рэвалюцыйнага руху лодзінскай зямлі, да якога павінна нявязваць маладое пакаленне гэтага ваяводства. Гаворачы аб іншай сітуацыі, у якой жыло старэйшае пакаленне, Ігнацы Лёга-Савінскі заявіў:

«Не гаворым сёння аб гэтых справах па тое, каб вам, маладым рабіць выгавар, што можаце карыстацца вынікамі цяжкай працы і ахвярнасці старэйшага пакалення. Гэта быў наш найбольшы абавязак у адносінах да маладога пакалення. Нашае пакаленне прайшло, як кажуць, праз агонь і ваду, і выканала гэты абавязак належна. Гаворым аб гэтым па тое, каб акрэсліць вашыя абавязкі, вашае месца і вашыя якасна іншыя магчымасці, якія створаны вам вашымі бацькамі цяжкай працай і ахвярнасцю».

Найважнейшай справай моладзі з'яўляецца навука, здабыццё ведаў, якія перад усім дае школа. Найважнейшай аднак школай, найкаштаўнейшым універсітэтам жыцця з'яўляецца праца, актыўны ўдзел у жыцці той грамадскасці, якая стварае матэрыяльныя падставы грамадскага жыцця ў працэсе прадукцыі. Меркай палітычнай актыўнасці нашай моладзі можа быць яе штораз шырэйшае ўступанне ў рады партыі. На працягу апошніх 4 месяцаў у рады ПАРП уступіла 24 тысячы членаў ЗМС і ЗМВ, моладзь ва ўзросце ад 18 да 20 гадоў складае зараз чацвёртую частку агульнага стану членаў партыі.

### ЖЫЛЛЁВЫЯ ПРАБЛЕМЫ

27 чэрвеня адбыўся ў Варшаве VI Пленум Цэнтральнай рады прафсаюзаў. На пленуме перааналізавана ўдзел прафсаюзаў у забеспячэнні жыллёвых патрэб рабочых і іх сем'яў, у папраўе гаспадаравання кватэрамі і гд. З дакладам на тэму актуальных заданняў прафсаюзаў у таліне паляпшэння жыллёвых умоў людзей працы выступіў намеснік страшыні Цэнтральнай рады прафсаюзаў Вацлаў Туладзецкі.

(п)

## ВАЯВОДСТВА

### УНІВЕРСІТЭЦКІ ФІЛІЯЛ

На аснове пастановы міністра асветы і вышэйшых навучальных устаноў адкрыты ў Беластоку філіял Варшаўскага універсітэта. Такім чынам у 1968/69 навучальным годзе пачнуць працу ў Беластоку Вышэйшая настаўніцкая школа і Вышэйшая адміністрацыйная студыя.

У Вышэйшай настаўніцкай школе пакуль што прадбачаны 3 факультэты:

1) Гуманістычны факультэт, у рамках якога можна вывучаць польскую філалогію з гісторыяй і рускую філалогію.

2) Матэматычна-прыродазнаўчы факультэт, у рамках якога можна вывучаць матэматыку з фізікай і фізіку з хіміяй.

3) Факультэт пачатковага навучання з напрамкамі: пачатковае навучанне з музычным выхаваннем і пачатковае навучанне з фізкультурным выхаваннем.

Новая вышэйшая школа будзе рыхтаваць кадры для нашых школ і для адміністрацыі. Навука ў гэтых школах прадаўжацца будзе 3 гады. Пасля выпускнікі школы могуць прадаўжаць навуку завочна на Варшаўскім універсітэце.

### НАВУКА АДМІНІСТРАЦЫІ

Вышэйшая адміністрацыйная студыя прымае выпускнікоў сярэдніх школ. Для тых, хто не мае «матуры», а працуе ў адміністрацыі ўсіх узраўняў рад нарадовых, раім пацікавіцца адміністрацыйным напрамкам навучання ў **беластоцкім завочным эканамічным тэхнікуме.** У наступаючым школьным годзе гэты тэхнікум набірае кандыдатаў у першы клас адміністрацыйнага напрамку. Навука адбывацца будзе семестральным метадам — разам 10 паўгадовых семестраў. Вучні абавязаны 2 разы ў тыдзень прыехаць у Беласток — пасля абеду ў суботу і зранку ў нядзелю.

Навука канчаецца дзяржаўным экзаменам на атэстат сталасці (матуру) і дае поўныя праваможцтвы выпускніка сярэдняй школы. За болей падрабязнымі інфармацыямі трэба звяртацца непасрэдна ў завочнае аддзяленне эканамічнага тэхнікума, які памяшчаецца ў Беластоку на вул. Варшаўскай 63.

### 4-ТЫСЯЧНЫ ПАРТБІЛЕТ

29 чэрвеня г. г. адбылося ў Беластоку ўрачыстае пасяджэнне экзекутывы Павятовага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі, у час якога прынялі ў рады кандыдатаў партыі 65 асоб — жыхароў Беластоцкага павета. Сярод новапрынятых між іншымі былі рабочы фабрыкі дакладных вырабаў у Чорнай Беластоцкай — Валерыян Гаўрылюк, які атрымаў партыйны білет № 3999, ткач вонаапрацоўчага прадпрыемства імя Эміліі Плятэр у Васількове Эдмунд Баршчэўскі, які атрымаў партыйны білет № 4000, і малады селянін з Рафалоўкі, вучань завочнага сельскагаспадарчага тэхнікума Часлаў Прус, які атрымаў партыйны білет № 4001. Новапрынятым у рады кандыдатаў партыі партыйныя білеты ўручыў I сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП тав. А. Лашэвіч.

Б. Р.




**NIEDZIELA. 7.VII.**

9.30 Program dnia. 9.35 „Król oszustów" — film fab. węg. cz. I. 10.45 „Przypominamy, radzimy". 11.00 „Nowogród" („Uświęcone miejsca Ojczyzny". 11.30 „Bawcie się z nami" — program muzyczny. 12.10 PKF. 12.20 Wiadomości dziennika. 12.30 „Spotkania z przyrodą". 12.55 „Walizka dyplomatyczna" — film („Przygody trzech muszkieterów"). 13.25 „Wszystko o szybowcach" — progr. sport. 14.35 „Przemiany". 15.05 Dla dzieci: E. Szwarc — „Miasto lalek". 16.05 „Wyspa złoczyńców" — film fab. pol. 17.35 „Jonasza nie było" — rep. film. („Ludzie i zdarzenia"). 17.50 „Może morze?" — program rozrywkowy. 18.35 „Kamera 68" — felieton TV. 18.45 „W autobusie" — film radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.10 Finałowy Koncert Festiwalu Piosenki Żołnierskiej (Kołobrzeg). W przerwie Niedziela Sportowa.

**PONIEDZIAŁEK, 8.VII.**

17.05 Program dnia. 17.10 Wiadomości dziennika. 17.20 „Rok 2000". 17.50 „Narodziny tańca" — film TV radz. 18.15 „Na Nyskim rynku" — raid reporterski po Ziemi Opolskiej. 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 V TV Festiwal Teatrów Dramatycznych: A. Fredro „Zemsta". 22.00 „Kino Krótkich Filmów". 22.30 Dziennik TV.

**WTOREK, 9.VII.**

10.00 „Błędny ognik i płomień" — film fab. NRD cz. II. 11.30 Przerwa. 16.50 Program dnia. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.05 „Teleferie": 1) „Turniej Żółtej Żyrafy". 2) „Wtorkowe Towarzystwo Nieprzemakalnych". 3) „Znak Zorro" — film. 18.20 TV Kurier Warszawski. 18.35 „Urodziny" — raid reporterski po Ziemi Opolskiej. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Grają Orkiestry Dęte" — program rozrywkowy. 20.35 „Pod znakiem jakości." 21.05 „Błędny ognik i płomień" — film fab. NRD cz. II. 22.35 Dziennik TV.

**SRODA, 10.VII.**

10.00 „Dr Finley" — film. 10.50 Przerwa. 16.50 Program dnia. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 Dla dzieci: J. Wilkowski — „Ula i świat". 17.30 PKF. 17.40 „Nie tylko dla pań". 18.00 „Wiosenne etiudy" — film radz. 18.15 „Sami sobie" — tv raid reporterski po Ziemi Opolskiej. 18.45 Wszechnica TV. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Wielki walc" — transkrypcje walców na fortepian oraz fortepian i skrzypce. 20.35 „Światowid". 21.05 „Dr Finley" — film. 21.55 „Nad Odrą i Bałtykiem". 22.20 Dziennik. TV.

**CZWARTEK, 11.VII.**

10.00 „Niepowtarzalne zdjęcia" i „Oszustka" — filmy TVP („Barbara i Jan"). 10.55 Przerwa. 17.20 Program dnia. 17.25 Wiadomości dziennika. 17.30 „Kronika 50-lecia Kraju Rad" (rok 1918). 18.00 „Telekram". 18.10 „Sztuka starożytnych Czudów" — film TV radz. 18.30 „Po szóstej" — TV Klub Młodzieżowy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 Koncert Zespołu Wokalno-Instrumentalnego. „Partia". 20.40 Teatr „Kobra". 21.40 „Refleksje". 22.10 Dziennik. TV.

**PIĄTEK, 12.VII.**

10.00 „Światło na twarzy" — film fab. węg. 11.30 Przerwa. 16.50 Program dnia. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 „Teleferie": 1) „Związek Zielonego Zeszytu". 2) „Niewidzialna Ręka". 3) „Piątkowe Towarzystwo Nieprzemakalnych". 4) Znak Zorro" — film. 18.15 TV Kurier Mazowiecki. 18.35 „Na widowni". 19.00 „Do Warszawy — Krakowiaczku żwawy" — program rozrywkowy. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 V TV Festiwal Teatrów Dramatycznych: W. Szekspir — „Cymbelin". 22.05 „10 minut recenzji". 22.15 Wszechnica TV: „Wielcy zapomniani". 22.45 Dziennik TV.

**SOBOTA, 13.VII.**

10.00 „Jej siedem wieczorów" — film fab. CSRS. 11.40 Przerwa. 15.30 Program dnia. 15.35 Program Tygodnia. 16.00 Czwórmecz w lekkiej atletyce ZSRR, NRD, CSRS, PRL (Leningrad). 17.15 Wiadomości dziennika. 17.20 „Gawędy wilków morskich". 17.35 „Życie utajone" — film („Świat, który nie może zginąć"). 18.05 „Warszawa, Ja i Ty". 18.30 „Ojcowie i dzieci" — TV raid reporterski po Ziemi Opolskiej. 19.20 Dobranoc. 19.30 „Monitor". 20.10 „Pegaz". 20.40 „Mąż pod łóżkiem" — film TVP. 21.10 Program Estradowy. 22.00 Dziennik TV. 22.15 Wiadomości sportowe. 22.25 „Jej siedem wieczorów" — film fab. CSRS.




**Piątek, 5 lipca**

8.05 Nowości. 8.15 Dla uczniów. „Przychodź bajka". 8.30 Na polach kraju. 9.00 Premiera spektaklu muzycznego. 10.20 Dla uczniów. „Teleznajka". 14.30 Nowości. 14.40 Program. 14.45 Przyjacielskie spotkania. 15.30 Białoruskiej spółdzielczości 50 lat. 16.10 XXII spartakiada szkół republiki. 16.30 „5+2" Tygodniowy przegląd. 17.00 Koncert poświęcony 50-leciu Komunistycznej partii Ukrainy. 18.00 Sztafeta nowości.

**Sobota, 6 lipca**

6.55 Program. 7.00 Gimnastyka. 7.45 Nowości. 8.00 Z dniem urodzin. 8.30 „Zdrowie". Program naukowo-popularny. 9.00 „Obiekty". Telewizyjny klub fotoamatorów. 10.00 „Nauczyciel" — film. 11.40 Dla dzieci. Hipnoza. 12.10 Telewizyjny teatr dla dzieci. „Nowe przygody kota w butach. 13.15 Muzyczna szkatułka. 13.30 Program telewizji kolorowej. „Sasza — Saszeńka" — film. Klub kinopodróżników. 16.00 W eterze „Młodość". 17.00 Sekretna komenda „Bumerang" IV seria. 18.30 „Czas". Program informacyjny. 19.00 Cyrk pod otwartym niebem. 20.00 „Szarmanka" — krótkometrażowy film. 20.20 „Ja z 60-ch". Program młodzieżowy. 21.10 Mały cud. — film. 21.25 Nowości. 21.35 Estrada naszych przyjaciół.

**Niedziela, 7 lipca**

6.55 Program. 7.00 Gimnastyka. 7.15 Budzik. 7.45 Nowości. 8.00 Album przyrody. 8.30 Dla młodzieży „Łukamorie" — literacki almanach. 9.30 „Ludowy nauczyciel". 10.00 „Twórczość młodych". Dzień Kazachskiej republiki. 10.50 Nowości dnia. Kinoczasopismo. 11.00 Uświęcone miejsca naszej ojczyzny". „Nowgorod". 11.30 Dla was kobiety. 12.00 „Wiedza". Naukowo-poznawczy program. 12.30 Dla żołnierzy Armii i Marynarki Radzieckiej. Koncert. 13.00 Muzyczny kiosk. 13.30 Teatr literacki J. Kupała „Kurhan". 14.00 „Trzeci semestr. O studenckich grupach budowlanych. 14.30 Program telewizji kolorowej. 16.00 Sekretna komenda „Bumerang" V serja. 17.00 Europa: wydarzenia, kraj, problemy. 17.45 Strauss. Spektakl. 21.05 Tylko fakty. Program. „Muzykalny majak".

БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 115

## ІВАН ЧЫКВІН



# СВЯТАЯ СТУДНЯ

1.

Дзе Рым, дзе Крым, а дзе мая айчына!
Дзяцінства босае, замурзанае лета,
Святая студня з жураўлём успамінаў,
Сезам, дзе ўсё маё ляжыць ў фрагментах.

Даўно я гэты дзіўны горад кінуў,
Як усё, што хочаш ці не хочаш у Лету.
На сценах памяці вісяць партрэты
Выразных і яскравых сёння ласк матчыных.

Дарога ўсё вышэй, вышэй пад гору...
Назад зыйсці, вярнуцца да пралогу?
Дык мацярынства як гарачка ў хворага!

Іду сваёй нятоптанай дарогаю
І чую праайчыны ўсюды подых —
Бягу на Аю-даг, гляджу на Чорны воды.

2.

Бягу на Аю-даг, гляджу на Чорны воды —
Стыхія рвецца з ланцугоў Няптуна,
На скалы хвалі лезуць, чуючы свабоду,
І скалы ў мора груддзю, просячы ратунку.

І птушкі чарнаморскія з пароды гордых
Носяцца ў дзюбе з сонца ладункам,
У змове з ветрам, наперакор кірункам
Праменнямі падаюць ў адлюдныя фіёрды.

А я стаю — чужы — у гэтым краі
Здалёк ад бацькаўшчыны і сумую,
І ноч, як пацалунак, на зямлю лягае.

І покуль мора сонца не задуе,
І покуль свет не знойдзе антыпода —
На гарызонт біноклі дальнябойныя наводжу.

3.

На гарызонт біноклі дальнябойныя наводжу,
Каб убачыць край Каперніка, Шапэна...
Дзе музыка расце — жывуць не бедна
І шчасце там, дзе зоры бачаць ноччу.

Аб чым галактыкі астрономам лапочуць
Праз тэлескопы, як праз трубы медныя?
Аб тым, што мы надзвычай бедныя
І ў сусветах бачыць нас не хочуць?..

Як добра зноў вяртацца у айчыну,
У тую прыстань, дзе няма ні штормаў,
Ні статкаў адплываючых, ці нават
На ўзбярэжжы скрыпак паштовых...
На гарызонце горы тоўпяцца кагалам
І бацькаўшчыны з гэтуль ўбачыць немагчыма.

4.

І бацькаўшчыны з гэтуль ўбачыць немагчыма
Праз гушчары паўднёвай душнаты.
Узброены ў яе, што думаў Ты
Ідучы сцежкамі паўцэнаў Крыма?

Ты ведаў, што табе няма спачынку
Цяпер. І будуць тнаць цябе вятры
Далей, за горы і за моры тры,
Каб ужо ніколі не вярнуцца у айчыну.

Як цяжка жыць — радзіма у няволі!
Хутчэй бы споўніць планы — і легіёны
У Польшчу увясці пад гул касцельных звонаў.

І сэрца ачуняе там ад болю.
І дух паэта рвецца з путаў Крыма,
І немагчыма тут Міцкевіча затрымаць.

5.

І немагчыма тут Міцкевіча затрымаць,
Сярод прыроды буйнай і гарэмаў
Жандармы злосна ходзяць надарэмна:
Хоць тут ён, але думкамі ў айчыне.

У яго грудзях няма агню без дыму —
Ён піша — рве з сябе пачаткі і карэнні.
Як вязень свету хоча ў камеры турэмнай,
Так ён пакінуць хоча бераг Крыма.

І ён зайздросціць птушкам, хмарам ў небе...
Хоць духам ўвысі, ногі топчуць травы,
А вочы і кінжалы бачаць і атравы.

А трэба доўга жыць, змагацца трэба
З царскай Расіяй, а з народам ў згодзе —
Ён думкамі на захад ўсё адходзіць.

6.

Ён думкамі на захад ўсё адходзіць —
Заосе ўспаміналася, потым Коўна,
Дзе з філаматамі ён зросся кроўна
І ссылка — у дваццаць чацвёртым годзе.

Чароўна небяспечны крымскі поўдзень...
І з поўначы Паэта гоняць зноў,
Ён едзе суму і натхнення поўны, —
Ах, Пушкін, колькі ж намі пройдзена!

Хвіліны шчасця! Вы, як слёзы мамы,
Калі дзіця вяртаецца дахаты —
Над вамі рукі з благаслаўеннем ўзняты.

Шчаслівымі бывайце Чорныя воды,
Бушуйце! Я вас нікому не аддам
І мілай Польшчы бярозавы водыр.

7.

І мілай Польшчы бярозавы водыр
Гусцее пад вечар, аж капаюць сокі
У попел зямлі, як па дзядзінцу крокі
Ад поспеху, ці граючы на сходах

Пад ножкамі Марылі. З кожным годам
Дарога да яе цішэй. Пухам лёгкім
Яна была пры ім, слязой ля вока
І хваляй у цішыні ля парахода.

Пяшчотна спяць успаміны аб Марылі.
Ах, Марыля, дзёўка, Польшча гарэзліва!
Да цябе лячу я дзень у дзень на крылах.

Ты мая рэлігія і мая паэзія,
Ты мне Патоцкая, ты мне Гражына —
Ён чуе, ён бачыць гэту жанчыну.

8.

Ён чуе, ён бачыць гэту жанчыну...
З косамі рэк, з грудзьмі азёр, зялёну,
Праклятую богам, на вуснах з праклёнам
Для тых, хто тады яе пакінуў.

Ці вы яе трымалі у далонях,
Сыпучую, пахучую, матчыну,
Кнігу з непрачытанымі загонамі,
Адзіную і непаўторную — айчыну?

Пусцее Крым. Міцкевіч у Парыжы.
На Аю-даг слядоў няма і мора
Зубамі валуноў скалы крышыць.

Змаркотнеў у хмурах прыгажун Ай-Петры,
Паэта кліча, каб ізноў у горах
Па яйлах свабодныя гойсалі ветры.

9.

Па яйлах свабодныя гойсаюць ветры.
Па дух чалавечы з высі арлінай
Спаўзаюць над мора, зыходзяць ў даліны,
Узбураць, пачэшуць хвалі дзве, тры
І, грудзі напоўніўшы ўздыхам сусветным,
У прасторах касмічных ракетаю гінуць,
Парваўшы на енкі і свісты паветра
І воду, а травы змяніўшы ў мякіну.

Не гоіцца на сэрцы рана. І з Парыжа
Нашчадкам ён запаветы піша,
На смерць і жыццё правеўшы бітву з богам.
У Істамбуле халера стаіць ля дарогі,
Цалуе ахвотна, смяротна, нагмінна —
Ей усё роўна, дзе Крым, дзе айчына.

10.

Ім усё роўна, дзе Крым, дзе айчына —
Травам зялёным, горам плячыстым.
Ветры і рэчкі прыходзяць і чысцяць
З слядоў чалавечых іх сцежкі звярыныя.

І мора штодзень гарызонт адчыніць
Блакітны і далёкі, далікатны, чысты,
Каб пад вечар зачыніць на засаў вячысты,
Каб зраўнаць у моры горы і шчыліны.

Я сяджу на скраю цішыні і ночы,
У вачах трымаю хвост начной каметы.
Мо' яна здалёк шчасце мне прарочыць?

Мо' хвіліны праклінаць я буду гэты?
Дзень — як і я — аніяк не хоча
Ні спаць на Рысах, ні спаць на Ай-Петры.

11.

Ці спаць на Рысах, ці спаць на Ай-Петры
Ночы ўсё роўна. Чорныя крылы
Зроку ляцяць, як попел на ветры,
Ляцяць на кожны дзень — стары і абрыдлы.

І прачынаюцца ў цемры гарадскія нетры —
Жыццё стаіць чыёсьці над абрывам...
А круглы месяц у час прыплываў
Цалуе пляжаў сонных петлі.

Таўрыда спіць. І шчыра наваколле
Ляжыць у кіпарысах і таполях.
Астанавілася гісторыі кабыла
І патэнцыяльныя скамянелі таямніцы.
Мяне чужына смуткам накарміла,
Бо чалавеку так цяжка спыніцца.

12.

А чалавеку так цяжка спыніцца
У вертыкалі — гарызанталі
Менш штораз часу, звужаюцца далі,
Блізка пяску, здалёк ад крыніцы.

А я хацеў бы шчэ жыццём стаміцца,
Аб'ехаць свет, заглянуць у музей — Італію
І множыць дні з жанчынаю каханай —
Бо да жыцця ў адносінах я быў патрыцый.

Я мушу быць, хоць мяне не будзе
Сярод жывых — жывы і жыццёдайны.
Няхай гавораць усе аб восьмым цудзе,
Што зможам смерць і найзвычайней
Жыць пакуль не збрыдне... Што за навіна?
Рэжа па сэрцы нудзьга безупынна.

13.

Рэжа па сэрцы нудзьга безупынна...
Праклятыя межы! Чужы я — вядома.
Дык добра усюды — найлепш аднак дома,
Удвое — прыйшоўшы з далёкай чужыны.

Як птушкі у вырай, так мы у айчыну,
У падлясскія пушчы, у нараўскі гоман,
У песні дзяцінства, у рукі матчыны —
Нагнуцца, даткнуцца, напіцца, успомніць.

У хаце прасторна, хоць хата і цесна
І сцены, як годы, пакрыты трывогай,
З іконаў сцякаюць жалобныя песні.

Нам нельга у часе бацькоўскім спыніцца,
Нам ў нову краіну адкрыта дарога,
Хоць косцю у горле стае заграніца.

14.

Косцю у горле стае заграніца,
як позняя восень і запах атавы.
Прыдзе няпрошана, зловіць, атравіць
Гора гарою і шчасця крыніцай.

Трэба было мне там нарадзіцца,
Дзе птушкі і вецер ці песняў актавы,
Дзе ўволю свабоды можна напіцца
І плачу — сурэзна, і смеху — напраўду.

І зноў дома я, і б'е крыніца
Цяпер замежных успамінаў,
І днём, і ноччу мора сніца.

Як бышцам там сябе ўсяго пакінуў.
Ох, як звярына цягне заграніца —
Дзе Рым, дзе Крым, а дзе мая айчына.

15.

Дзе Рым, дзе Крым, а дзе мая айчына —
Бягу на Аю-даг, гляджу на Чорны воды,
На гарызонт біноклі дальнябойныя наводжу,
Але бацькаўшчыны з гэтуль убачыць немагчыма.

І немагчыма тут Міцкевіча затрымаць —
Ён думкамі на захад усё адходзіць
І мілай Польшчы бярозавы водыр
Ён чуе, ён бачыць гэту жанчыну.

Па яйлах свабодныя гойсаюць ветры.
Ім усё роўна, дзе Крым, дзе айчына,
Ці спаць на Рысах, ці спаць на Ай-Петры,

А чалавеку так цяжка спыніцца!
Рэжа па сэрцы нудзьга безупынна,
Косцю у горле стае заграніца.



На Гродзенскім азотнатукавым заводзе.

# Гродзенская гордасць

(Працяг са стар. 1)

Вялікая хімія — новая, невядомая раней у гэтых краях галіна прамысловасці — новы сімвал сённяшняга Гродна і Гродзеншчыны. Тут раней, апрача смаляроў, іншых хімікаў не ведалі.

Гродзенскія хімікі, відаць, людзі ініцыятыўныя: не спыняюцца на мінеральных угнаеннях. Побач азотнатукавага, растуць карпусы капралактамавага завода. І хіба ўжо недалёкі час, калі, як цяпер салетрай, праславіцца Гродна і сваім капронам.

З іншым, таксама новым тут, відам хіміі сустрэліся мы ў Лідзе на лакафарбавым заводзе. Заводу тры гады. Выкарыстаны ў ім найноўшыя дасягненні тэхнікі. Поўная аўтаматызацыя. На чатырох рабочых — адзін інжынер або тэхнік. Калі ходзіш па цэхах гэтага дзіўнага завода, які ў адных трубах і баках, здаецца, нічога тут не дзеецца. Зусім не адчуваеш, што прысутнічаеш пры складанейшым хімічным працэсе. Але галоўны інжынер запэўняе нас, што на заводзе ідзе цяпер нармальная прадукцыя.

Прызнаюся, нічога я не разабраў у «вымяральніках», «камерах», «млынах» і іншых, не менш спецыфічных, апаратах, але зразумеў адно: на лідскія лакі і фарбы чакаюць і ў Гомелі, і ў Віцебску, і ў Мінску. Імі пакрываюцца станкі, трактары, тэкстыльныя вырабы і мэбля. Завод адзіны ў Беларусі і адзін з нешматлікіх у Саюзе. Таму зразумела мне гордасць за свой завод, якую адчуваю ў словах гаспадароў. Гэта гордасць за беларускія лакі, якія з ходу здабылі рынак.

Гордасць! Што гэта такое ўявіў я яшчэ мацней у Гродне на «Аўтазапчастцы», як гродзенцы называюць свой завод аўтамабільных запасных частак. Паўстаў на базе кустарнага прадпрыемства, якое вырабляла звычайныя сялянскія вазы. Цяпер вартасць гадавой прадукцыі 14 млн. рублёў. Кааперацыя з МАЗ-ам і ЗІЛ-ам. Робіць для іх карданныя валы. 600 ў суткі. Завод у рэканструкцыі. Пасля завяршэння работ (1972) — гадавая магутнасць прадукцыі павялічыцца да 40 млн. рублёў.

Водзяць нас па заводзе намеснік галоўнага інжынера Віктар Васіленка, інжынер па рацыяналізацыі Анна Чуканава і інжынер па інфармацыі Галена Каранкевіч. Людзі маладыя. Найстарэйшаму з іх Віктару Васіленку 33 гады. А стаж працы 9—10 год. Раслі на сваім заводзе. Зрэшты, як і ўвесь заводскі калектыў. Ён таксама малады, выхаваны тут, прывязаны да завода ўсім сваім свядомым жыццём.

Тры гады таму на «Аўтазапчастцы» даўгавечнасць ЗІЛ-аўскага вала паднялі ў тры разы. Праводзяцца далейшыя доследы. Ці ж трэба дадаваць, што прывядуць яны дружны калектыў да яшчэ лепшых вынікаў? У працы і няспынным імкненні пашырэння і ўдасканалення сваёй вытворчасці нараджаецца гродзенская працоўная гордасць.

**Г. Валкавыцкі**
Фота Э. Трыгубовіча

# ГАРЦЭРСКІЯ МАНЕЎРЫ

Напэўна не кожны ведае, што сярод гарцэрскіх дружын ёсць дружыны спецыялістычныя. Найбольш знаныя — гэта дружыны т. зв. «чырвоных берэтаў», МСР, сувязі, санітарныя і пажарнікаў. Гэтыя дружыны складае перад усім старэйшая гарцэрская моладзь.

У чым спецыялізуецца кожная з дружын няцяжка адгадаць. Зразумела, чым займаюцца пажарнікі, санітары, маладзёжная служба руху (МСР), трохі менш можна сказаць аб сувязі і мала аб «чырвоных берэтах». Утрымоўванне добрай радыёвай і тэлефоннай сувязі ў час розных грамадскіх няшчасцяў — вельмі істотная і гэтай прафесіі вучацца гарцэры ў дружынах. «Чырвоныя берэты» — гэта перад усім падрыхтоўка юнакоў на выпадак вайны, іх спецыяльнасць — разведка, супрацьхімічная абарона.

Па колькі ўсе вышэй названыя дружыны маюць абаронны характар, вырашана ў гонар 25-ай гадавіны Народнага Войска Польскага правесці тэхнічна-абаронныя манеўры гэтых дружын. Разыходзіцца прынамсі аб некалькі спраў. Па колькі дружыны існуюць ужо некалькі год, пара праверыць іх умеласць у галіне абароннасці, а таксама спапулярызаваць гэтыя спецыяльнасці сярод неарганізаванай у ЗГП моладзі. Манеўры ўжо адбыліся ў паасобных дружынах. У маі закончыліся агляды ў гуфцах (паветах). Ваяводскія манеўры адбываліся ў 5 мясцовасцях Беластоцкага ваяводства ў чэрвені: МСР — у Бельску, «чырвоныя берэты» — на Пульку, сувязь — у Беластоку, пажарнікі — у Лапах і санітары — у Ломжы. Найлепшымі ў паасобных спецыяльнасцях у ваяводстве аказаліся: МСР — Бельск; сувязь — Беласток - горад; «чырвоныя берэты» — Сэйны; пажарнікі — Лапы і санітары — Ломжа.

Дружыны правялі першыя баявыя заняткі на сыгранасць. Усё выйшла спраўна, а тое, што не вельмі добра — «дашліфуюць» у спецыяльным лагеры ў ліпені. Важна, каб супрацоўніцтва ўсіх спецыяльнасцей было па магчымасці ідэальнае. Пасля такой падрыхтоўкі гарцэрскія спецыялістычныя дружыны сустрэнуцца ў кастрычніку г. г. у Жэшове на цэнтральным аглядзе.

Давялося мне назіраць заняткі толькі некаторых дружын, аб некаторых мне расказалі. Мой вывад вельмі аптымістычны. Заданні дружынам былі цяжкія, але развязкі часта дасканалыя. Манеўры выказалі вялікую сталасць, сумленнасць і здысцыплінаванасць. Аптымізм хацелася б аднесці не толькі да самой арганізацыі ЗГП, але і да тых усіх, хто з'яўляецца патронам паасобных спецыяльнасцей. Міліцыя, войска, пажарнікі, ЛОК — маюць дасканалы «матэрыял» да пашырэння сваёй дзейнасці, дзейнасці вельмі важнай і адказнай.

А. К.



Гарцэры дружыны МСР у час перапынку ў занятках.

**М. ЯНКОЎСКІ**

БЫЛЫ КАМАНДЗІР ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ "У ІМЯ РАДЗІМЫ" БЕЛАСТОЦКАГА ПАРТЫЗАНСКАГА ЗЛУЧЭННЯ

# У БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ

II.

Лістапад і снежань, месяцы 1943 года, прайшлі ў глыбокай разведцы Белавежскай пушчы. Многа дапамог нам у гэтай справе яе бывалы партызан Васіль Пятровіч Кірычэнка, які быў накіраваны ў нашу брыгаду штабам злучэння партызан Беласточчыны.

Па сабраных намі звестках стала вядома, што партызанскі рух у Белавежскай пушчы пачаў развівацца адразу ж пасля прыходу сюды нямецкіх акупантаў. Пасля адступлення Чырвонай Арміі тут засталося шмат яе воінаў, якія не маглі выйсці з акружэння і ўліліся ў сям'ю жыхараў Беласточчыны, сумесна з імі ўключыліся ў барацьбу супроць нямецкіх захопнікаў. Многія з іх, як ваенныя спецыялісты, сталі арганізатарамі і кіраўнікамі ўсенароднай барацьбы супроць акупантаў у гэтым краі. Такімі людзьмі былі тут Васіль Трахімавіч Канцэдайла, Іван Іванавіч Крылоў і іншыя. Пазнаёміўшыся з мясцовымі людзьмі, яны пачалі згуртоўваць вакол сябе больш актыўных таварышаў. Ужо ў пачатку ліпеня 1941 года ў населеных пунктах вакол Белавежскай пушчы нараджаліся антыфашысцкія камітэты.

Антыфашысты вёскі Дубіны выбралі сваім важаком Яна Верамюка і Аляксандра Юрчука. Адначасова быў створаны антыфашысцкі камітэт і ў суседняй з Дубінамі вёсцы Навасады. Яго старшынёй навасадскія антыфашысты выбралі Рыгора Саевіча.

Кіраўнікі антыфашысцкіх камітэтаў Дубін і Навасад былі ўжо знаёмы з Іванам Крыловым і Васілём Канцэдайлам. Крылоў з іх дапамогай распрацаваў план баявой аперацыі па вызваленню ваеннапалонных з Гайнаўскага лагера. Аперацыя прайшла паспяхова. Каля ста чалавек ваеннапалонных былі выведзены антыфашыстамі ў пушчу.

Восенню 1941 года Канцэдайла і Крылоў пачалі падбіраць надзейных і смелых людзей для стварэння партызанскага атрада. Ранняй вясной 1942 года атрад быў створаны і пачаў баявыя дзеянні. Першымі партызанамі яго, апрача Канцэдайлы і Крылова, былі Ігар Бабайлаў, Трафім Лямцаў, Ваня Бабкоў, Сярожа Мошкін, Міхаіл Ястрабаў, Саша Мядзінцаў і іншыя. Крыху пазней прыйшла ў атрад і Люба Корнева — першая камсамолка — партызанка ў Белавежскай пушчы.

Атрад праводзіў дыверсіі на вузкакалейных чыгунках пушчы, біў фашыстаў з засад і нават пусціў пад адхон цягнік непадалёку ад Гайнаўкі. Вясною 1942 года ў атрадзе ўжо налічвалася больш 60-ці партызан і ён пачаў іменавацца партызанскім атрадам імя Тэльмана. Першы бой партызан супраць вялікага і добра ўзброенага атрада гітлераўцаў адбыўся 15 мая 1942 года і ў 540 і 543 кварталах Белавежскай пушчы. Для немцаў тады было яшчэ не прывычна ваяваць з партызанамі, ды яны і паверыць не маглі, што ў Белавежскай пушчы ёсць такі атрад. Бой даказаў ім гэта. Нягледзячы на вялікую перавагу ворага ў сіле, партызаны атрада імя Тэльмана адбілі ўсе атакі гітлераўцаў, нанеслі ім вялікія страты ў жывой сіле і ўзялі багатыя трафеі.

Баявыя дзеянні атрада выклікалі трывогу ў варожых гарнізонах. У ліпені 1942 года шпіёны выследзілі лагер атрада і прывялі да яго нямецкіх карнікаў. У баі загінула два партызаны, але атраду ўдалося прарвацца і выйсці з акружэння фашыстаў.

Тэльманаўцы зноў не давалі спакою немцам. Іх баявыя дзеянні асабліва непакоілі гітлераўцаў таму, што ў Белавежскую пушчу меркаваў прыехаць на паляванне Гітлер і Герынг са світай сваіх падначаленых. Сюды было паслана каля пяці тысяч эсэсаўцаў, каб ачысціць пушчу ад партызан. Аблава цягнулася два тыдні, але атрад імя Тэльмана пазбег разгрому.

Пасля гэтага немцы распрацавалі новую тактыку барацьбы з партызанамі. Яны ўжо добра вывучылі і асвоілі пушчу і з дапамогай здраднікаў і правакатараў пачалі выследжваць невялікія партызанскія групы і паасобных партызан, што накіроўваліся на баявыя аперацыі. Асабліва выдзяляўся сваёй стараннасцю перад гітлераўцамі шпіён Ян Янкушык з вёскі Горнае. Доўгі час немцы рыхтавалі яго для брудных спраў. Нават, кажуць, у Берлін вазілі вучыць гэтаму «майстэрству». І ён апраўдваў давер'е сваіх гаспадароў. Аднойчы, ужо ў канцы лета 1942 года камандзір атрада Канцэдайла пайшоў да сваіх сувязных у вёску Збуч. Янкушык выследзіў яго там і выдаў гестапаўцам. Фашысты акружылі дом, дзе адпачываў Васіль Трахімавіч, хацелі ўзяць яго жывым, але адважны партызанскі камандзір адстрэльваўся да апошняга патрона і загінуў геройскай смерцю.

 

У пошуках шчасця

# ДЗЯДЗЬКА МАКСІМ І ФІЛОСАФЫ

Ад часу, як паявілася дзіўная прафесія філосафа, ды паявіліся людзі, заданнем якіх сталася нічога больш і не рабіць, толькі раздумваць над сутнасцю жыцця і свету, пачаў народ звычайны патрабаваць ад іх, каб знайшлі рацэпт у справе найважнейшай — рацэпт на чалавечае шчасце. Філосафы адказалі тамамі тоўстых кніг, падрабязнымі аналізамі ўмоў і прынцыпаў шчаслівага жыцця. Напісана на гэтую тэму многа, напісалі аб шчасці па кніжцы і найбольш вядомыя ў нашай краіне прадстаўнікі кніжнай мудрасці — прафесары Татаркевіч і Катарбінскі. Народ кідаецца на гэтую літаратуру, кніжкі мігам знікаюць з кнігарняў, людзі прагна гартаюць задрукаваныя старонкі, шукаючы рацэпту для сябе — на сваё шчасце.

Перагорнем і мы старонкі мудрых кніг, каб убачыць, што вялікія ды найвялікшыя людзі нашага часу прапануюць людзям малым, сярэднім, звычайным шэрым праходжым запыленай вуліцы. Аказваецца — нічога асаблівага. Парады філосафаў, змешчаныя ў тоўстых кнігах, безнадзейна трывіялныя, банальныя, вядомыя амаль кожнаму, хто нарадзіўся на свет белы: заняцца дзяцьмі, хадзіць на пляж, цікавіцца спортам, мець добрых знаёмых, не пераймацца надта грашовымі клопатамі, збераганнем маёмасці, ды наогул не быць скнэраю.

Гэтыя і мноства іншых падобных парад — гэта амаль усё, да чаго магла дапрацавацца філасофская думка на працягу двух з паловай тысяч гадоў яе існавання, усё, што мог прыдумаць чалавечы мозг у натужлівых пошуках адказу на пытанне: як быць шчаслівым?

Бязраднасць кніжнай мудрасці ў вырашэнні асноўных праблем чалавечага жыцця садзейнічае зацікаўленню «мудрасцю бяскніжнай», народнай мудрасцю.

Вяртаемся зноў да сімвалічнай постаці дзядзькі Максіма, постаці ўстарэлай, нясённяшняй, постаці — адгалоску мінуўшчыны. Постаць гэтая з многіх бакоў — перажытая. Максімава жыццё — адзін прымітывізм, Максімавыя думкі — адна куча павер'яў ды забабонаў. Дажывае дзядзька Максім сваю старасць, загледжаны выключна ў старыну, закаханы выключна ў старыну, насцярожаны да ўсяго новага, да ўсялякага прагрэсу, і сам ён — перашкода ўсялякаму прагрэсу, на шчасце — перашкода нягрозная, бо ўжо вельмі рэдкая. Для чалавека дзеяння, для дзеяча, прапагандыста прагрэсу Максімава пастаць — сімвал адсталасці. І думкі і выказванні дзядзькі Максіма таксама ні мудрыя, ні арыгінальныя, наадварот — найчасцей яны даволі простыя ды прымітыўныя.

Чаму ж тады да Максімавай мудрасці, да народнай мудрасці, да мудрасці пагаворак ды прымітыўных легендаў усё нанава вяртаецца літаратура і сімпатыі вучоных людзей? Чаму сам Максім — адзінокі дзівак, закаханы ў мінулы, нясённяшні свет — быў і застанецца ўлюбёным літаратурным героем?

Бо свет, які вырасціў старога дзядзьку Максіма і ў якім ён астаўся закаханы, вырашаў асноўныя праблемы жыцця не пры дапамозе кніжных ведаў, не пры дапамозе лагічных разважанняў, але пры дапамозе такой арганізацыі жыцця, дзе кожны крок, кожны акт чалавечай дзейнасці выходзіў далёка вышэй звычайнай штодзённай шэрасці. Ці дзядзька Максім сядаў за стол, ці браўся за працу, ці арганізоўваў сабе святочны адпачынак — да ўсяго падыходзіў з годнасцю, набожнай павагаю ды цырыманіяльнай абрадавасцю — годнасць, багатая абрадавасць надавалі звычайнай Максімавай штодзённасці сэнсу ў размерах вечнасці.

Зараз аднак праца сталася выключна працаю, адпачынак — адпачынкам, а гульня — гульнёю, пазбаўленыя ўсялякіх іншых сэнсаў ці значэнняў. Сэнсу людзі пачалі шукаць у тоўстых кнігах. Дзядзька Максім не шукае. Жыве ўспамінамі мінулага. Да Максімавага мінулага вяртаецца аднак не толькі ён сам. Вяртаюцца людзі сучаснасці, спрабуючы ў народнай культуры знайсці прыклады развязкі агульначалавечых праблем.

**Рыгор Паўлюк**

## З развагай і разумна

(Працяг са стар. 1)

але рэчаіснасць, і быць так пастаўлена, каб пасля нейкага часу можна было правесці кантроль яе рэалізацыі. Пастанова павінна ўлічваць, урэшце, спецыфіку данай тэрыторыі, а гэтага не відаць у пастанове для Семяноўкі.

Шмат чаго можна знайсці ў пастанове, але не справа ў прыдзірках, а ў тым, каб да паважных спраў падыходзіць з развагай і разумна.

**А. Лабановіч**

## СКС

У Эканамічным Тэхнікуме ў Бельску існуе школьны спартыўны клуб (СКС), які ахоплівае сваёй дзейнасцю штораз шырэйшае кола вучнёўскай моладзі. На ўвагу заслугоўвае тое, што дзейнасцю СКС-у цікавіцца штораз больш дзяўчат. У мінулым годзе належала каля дзесяці дзяўчынак, а цяпер у СКС-се налічваецца каля дваццаці вучаніц.

Спартсменкі выязджаюць на спартыўныя сустрэчы і матчы ў іншыя мясцовасці ваяводства. (ся)

Загінулі ў баю ў час дыверсіі на чыгунцы партызаны Сяргей Мошкін і Трафім Лямцаў.

Пасля гібелі Васіля Канцэдайлы камандванне атрадам імя Тэльмана прыняў на сябе Іван Крылоў. Надыход зімы выклікаў цяжкасці ў барацьбе. Многія партызаны пакінулі Белавежскую пушчу і пайшлі на ўсход, у злучэнні партызан Брэсцкай і Баранавіцкай абласцей. Крылоў застаўся з групай 6 чалавек. Яны пабудавалі зямлянку непадалёку ад Гайнаўкі, стварылі там сваю базу і не спынялі баявых аперацый. Вясною баявыя дзеянні зноў пачалі прымаць шырокі размах.

Сярод жыхароў навакольных вёсак Белавежскай пушчы ходзяць размовы аб дзейнасці ў гэтых месцах партызанскіх груп Аляксеева, Кастуся Сібірака, Міколы Боўтрыка, Петракова, Мікалая Улеза, Каваленкі і іншых.

Гэтыя звесткі патрабуюць высвятлення, але на маю думку, гэта былі невялікія групы партызан з атрадаў Брэсцкага злучэння, якія хадзілі ў Белавежскую пушчу на баявыя аперацыі. Можна пачуць расказы аб дзейнасці групы Сцяпана Фёдаравіча. Відаць, размова ідзе аб групе Сакратарова, які некаторы час дзейнічаў сумесна з Васілём Пятровічам Кірычэнкам. Успамінаюцца таксама групы Смірнова, Кульбіцкага і Жукава. Гэта ўжо атрады нашай брыгады «У імя Радзімы». На поўдні Белавежскай пушчы можна пачуць размовы аб атрадзе Макарава. Такога атрада не было. У Брэсцкім злучэнні партызан быў атрад «За Радзіму», камісарам якога быў Макараў. Відаць, гутарка ідзе пра гэты атрад.

Група Івана Іванавіча Крылова не змагла больш вырасці ў партызанскі атрад. Вясной 1943 года Іван Іванавіч трапіў на засаду гітлераўцаў і загінуў у няроўнай бітве. Гэта быў адзін з лепшых і таленавітых арганізатараў партызанскага руху ў Белавежскай пушчы ў першыя два гады акупацыі.

У 1943 годзе Васіль Пятровіч Кірычэнка, пасля разгрому гітлераўцамі яго партызанскай групы, наладзіў сувязь з атрадам імя Калініна і атрымаў заданне ад камандвання атрада і ўпаўнаважанага ЦК КП(б)Б Данілы Сукачова арганізаваць у Белавежскай пушчы новы партызанскі атрад. У пачатку жніўня ён вярнуўся ў пушчу і сумесна з кіраўнікамі антыфашысцкіх камітэтаў Аляксандрам Юрчуком з Дубін і Рыгорам Саевічам з Навасад стварыў баявую групу з 15 чалавек. 10 жніўня група прыбыла ў атрад імя Калініна, баявое жыццё якога зрабіла вялікае ўражанне на новае папаўненне. Некалькі дзён групу Юрчука і Саевіча вучылі тактыцы партызанскіх дзеянняў і зноў накіравалі іх на захад Белавежскай пушчы. Камандзірам групы быў назначан Аляксандр Юрчук, а Рыгор Саевіч начальнікам яе штаба. Так былыя антыфашысты Дубін і Навасад сталі партызанамі.

Працяг будзе



Каманды выходзяць на поле спаборніцтваў — стадыён імя Януша Кусацінскага. Справа — лёгкаатлеты з Гродна.

## СЯДАЙЦЕ, ЕДЗЕМ

### ЛЕТА, ЛЕТА...

Агульнакраёвая турыстычная спулдзельня «Грамада», з аддзелам беластоцкім, якой наша рэдакцыя вядзе культурна-турыстычную акцыю «Сядайце, едзем», мае ва ўсёй краіне 80 уласных асродкаў адпачынку. Можа ў іх выязджаць кожны. Рассеяны яны ад гор па мора ў найпрыгажэйшых мясцовасцях. І ўсё больш людзей, дзякуючы «Грамадзе», выязджае на шырокія шляхі вандровак.

### ВЯСКОВЫЯ ДЗЕЦІ НА АДПАЧЫНКУ

Нас вельмі цешыць, што людзі і асабліва дзеці з вёсак, усё больш выязджаюць з-пад сваёй сельскай страхі. Асабліва важна, каб дзеці раслі ў шырокім пазнаванні свету.

Ужо другі год «Грамада» па заказу Беластоцкага Кураторыума арганізуе вясковыя дзіцячыя адпачынкі ў горадзе Беластоку. У мінулым годзе было сем турнусаў для 1200 дзяцей з вёскі. У гэтым годзе будзе шэсць турнусаў для тысячы дзяцей. Пяць дзён яны правядуць у Беластоку, пазнаёмяцца з горадам, а на два дні едуць у Варшаву. Удзел у такіх адпачынках прымаюць дзеці пачатковых школ ад другога класа.

280 дзяцей з нашага ваяводства будуць адпачываць у лагерах «Грамады» у Рыне каля Гіжыцка, у Берутавіцах на Дольным Шлёнску і Шклярскай Парэмбе ў Карканошах.

### СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫЯ ГУРТКІ Ў СВЕТ

«Грамада» моцна занялася ў апошні час вёскай. І трэба сказаць, з поспехам. Сельскагаспадарчыя гурткі надзвычай часта карыстаюцца яе паслугамі. Сельскагаспадарчыя гурткі з Далістова ў Манецкім павеце — 49 асоб, з Пшчулчына ў Высокамазавецкім павеце — 55 асоб, з Багноўкі ў Беластоцкім — 35 асоб, з Бранска ў Бельскім — 50 асоб выязджалі ў Варшаву, на шлях Леніна, удзельнічалі ў цікавым сплыве на плытах па рацэ Дунаец. (вл)




■ Вальдэмар Т., якому 36 гадоў, рабочы з Беластока, не даваў грошай на ўтрыманне жонкі і сваіх дзяцей. У сувязі з гэтым пракурор устанавіў для яго міліцыйны нагляд.

■ Восем кіламетраў за Бельскам на шашы Бельск — Кляшчэлі разбіўся на матацыкле жыхар вёскі Грыневічы Вялікія, Сцяпан Ляшкевіч. Прычынай яго няшчасця была празмерна хуткая язда. На павароце не ўтрымаў ён матацыкла і вывернуўся ў роў. Зараз знаходзіцца ў бельскай бальніцы.

■ 8 чэрвеня г. г. у пачатковую школу ў вёсцы Жукі, Беластоцкі павет, завітаў нейкі грамадзянін, які кіраўнічцы школы прадставіў пасведчанне з пячаткай Кураторыума беластоцкай школьнай акругі. Пасведчанне гэтае дазваляла яму наладжваць для школьнікаў спектаклі лялечнага тэатра «Два Міхалы». Кіраўнічка школы згадзілася, каб ён даў дзецям спектакль свайго «тэатра» і як заплату сабрала ад школьнікаў 200 зл. У той момант у школу прыехаў старшыня Заблудаўскай ГРН. «Камедыянт», пабачыўшы яго самаход, скочыў у акно і ўцёк у поле. Дагнаць яго не ўдалося. Справу гэтую разглядае павятовая камендатура МО ў Беластоку.

## Спартыўная дружба

Да традыцыйных сувязей паміж Беластокам і Гроднам несумненна трэба аднесці і сустрэчы лёгкаатлетаў. Матчы, якія адбываюцца паміж лёгкаатлетамі гэтых сяброўючых гарадоў, заўсёды прыцягваюць да сябе ўвагу спартыўнай грамадскасці. Так было і гэтым разам. Матч паміж лёгкаатлетамі Гродна і Беластока, які адбыўся 13 і 14 чэрвеня г. т. у Беластоку, апрача добрых спартыўных вынікаў, прычыніўся да яшчэ большага замацавання дружбы паміж беларускімі і польскімі спартсменамі. (рл)



Бег на 1500 м. У цёмных майках — гродзенскія бегуны.

Фота: В. Касакоўскі

## БЕЛАВЕЖА ДЗЯКУЕ

Белавежа дзякуе Прэзідыуму Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку і асабіста намесніку старшыні **Людвіку Ахоцкаму** і кіраўніку фінансавага аддзела **Станіславу Тшэбінскаму** за:

1) 300 тысяч крэдыту на рамонт Спартовай вуліцы ў Белавежы, 2) за крэдыт на рамонт кіно ў Белавежы.

Да пункта 1. Крэдыту на рамонт вуліцы Спартовай белавежскі Прэзідыум ГРН не мог дабіцца ў павятовых улад, хоць моцна стараўся.

Да пункту 2. Гісторыя белавежскага кіно таксама: год таму будынак быў закрыты, бо не надаваўся да эксплуатацыі. Здарэнне для Белавежы не абыякое, таму што іншага будынка тут для культурнай дзейнасці няма. Гаспадары Белавежы на чале са старшынёй ПГРН **Мікалаем Седуном** пачалі шумець, шукаць. Акруговае праўленне кіно ў Беластоку, на жаль, на старанні іх не адказала. Выратаваў Прэзідыум ВРН у Беластоку.

У ліпені будынак кіно, святліцы і бібліятэкі адкрые гасцінныя дзверы.

(вл)



 

